

Фота: Facebook

1. ЗАТРЫМАННІ І СУДЫ
2. ЦІСК, ЗВАЛЬНЕННІ, АДЛІЧЭННІ, ЗАБАСТОЎКА
3. ТВОРЧЫ СУПРАЦІЎ
4. ГАЛАСЫ АСОБАЎ
5. МІЖНАРОДНАЯ САЛІДАРНАСЦЬ
6. АЎКЦЫЁН
7. РОЗНАЕ

ЯК ДАПАМАГЧЫ ДЗЕЯЧАМ І ДЗЯЯЧКАМ КУЛЬТУРЫ?

ПАДТРЫМАЙЦЕ

БЕЛАРУСКІ ФОНД КУЛЬТУРНАЙ САЛІДАРНАСЦІ

І КАМПАНІЮ "SAVE OUR SONGS"

# 1. ЗАТРЫМАННІ І СУДЫ

***Марыя Каленік***, студэнтка Акадэміі мастацтваў, якую затрымалі 12 лістапада па крымінальнай справе аб арганізацыі беспарадкаў, прызнана палітзняволенай.





***Віталь Быль***, гісторык, экскурсавод, малодшы навуковы супрацоўнік у музеі-запаведніку “Нясвіж”, аўтар шэрагу публікацый і кніг пра род Радзівілаў, быў затрыманы 22 лістапада ў Бараўлянах.

***Наталлю Бордак***, мастачку і паэтку з Нясвіжу, выклікалі ў РАУС “на прафілактычную гутарку” і склалі пратакол за ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве, а пасля прысудзілі **7** сутак арышту.
Наталля чакае вынікаў тэсту на Covid, і калі ён акажацца адмоўным, яе адразу ж забяруць адбываць пакаранне. Умовы ў нясвіжскім ізалятары жорсткія, камеры – у сутарэнні, і ў іх няма нават вады, у Наталлі ж хворыя пазваночнік і суставы.





***Алену Гіронак***, выканаўцу галоўнай жаночай ролі ў фільме «Купала», затрымалі 29 лістапада падчас “Маршу суседзяў”. 1 снежня Алену аштрафавалі на **810** рублёў за "парушэнне парадку арганізацыі і правядзення масавых мерапрыемстваў".

Фота: Facebook

# 2. ЦІСК, ЗВАЛЬНЕННІ, АДЛІЧЭННІ, ЗАБАСТОЎКА



Фота: mdrama.by

**АНДРЭЯ НОВІКАВА, ДЫРЭКТАРА ВЯДУЧАГА РЭГІЯНАЛЬНАГА ТЭАТРА І МІЖНАРОДНАГА МОЛАДЗЕВАГА ТЭАТРАЛЬНАГА ФОРУМА «М.@RT.КОНТАКТ», ЯКІ З 2006 ГОДА ЗБІРАЕ Ў МАГІЛЁВЕ ВЯДОМЫЯ ТЭАТРЫ СА ЎСЯГО СВЕТУ, ЗВАЛЬНЯЮЦЬ БЕЗ ТЛУМАЧЭННЯ ПРЫЧЫНЫ**



Але фактычна за тое, што не аказваў ціску на сваіх супрацоўнікаў, якія бралі ўдзел у акцыях пратэсту і адбывалі содні. Пра сітуацыю распавяла калега Андрэя Новікава ***Вольга Семчанка***. У абласное ўпраўленне культуры быў накіраваны зварот з просьбай пакінуць Новікава на пасадзе, падпісаны 86 работнікамі тэатра, а адкрыты ліст Беларускага фонду культурнай салідарнасці падпісала больш за 300 дзеячоў, але на месца былога дырэктара ўжо прызначылі новага, ім стала ***Ірына Белякова***.

***Зміцер Сасноўскі***, лідар гурта "Стары Ольса", які быў затрыманы, калі стаяў у ланцугу салідарнасці ў Клецку 13 лістапада, і якога **3** сутак да суда трымалі ў ІЧУ практычна без ежы, пасля таго як выйшаў са штрафам **30** базавых, вымушаны быў з'ехаць за мяжу, бо яго шукалі невядомыя і пагражалі яму.






**З ІНСТЫТУТА ГІСТОРЫІ АКАДЭМІІ НАВУК ЗВОЛЬНІЛІ СЯМЁХ СУПРАЦОЎНІКАЎ.**

Гэта - ***Мікалай Волкаў***, ***Аляксей Шаланда***, ***Кацярына Крывічаніна***, ***Алесь Жлутка***, ***Андрэй Радаман***, ***Таццяна Паўлоўская*** і ***Уладзмір Шыпіла***. Чацвёра з іх прайшлі праз затрыманне падчас акцый пратэсту. Яшчэ пяцёра супрацоўнікаў звольніліся на знак салідарнасці: ***Уладзімір Тугай***, ***Андрэй Мацук***, ***Вадзім Аніперкаў***, ***Андрэй Унучак***, ***Васіль Варонін***.







***Ігар Кулікоў***, паэт, перакладчык, выкладчык у Акадэміі мастацтваў, атрымаў вымову з занясеннем у асабістую справу за "ўдзел у несанкцыянаваных масавых мерапрыемствах у лістападзе 2020 года".

***Яўгена Малікава***, гомельскага гісторыка, якога 19 лістапада звольнілі з БелГУТа пасля ўдзелу ў акцыі, прызвалі ў армію. Яўгену 40 гадоў.



Фота: Наша ніва

***Аляксандр Памідораў***, вядоўца і музыка, звольніўся з Радыё Рокс.
У каментары Беларускаму фонду культурнай салідарнасці ён сказаў:



**"ЁСЦЬ ДЫСАНАНС У ТЫМ, КАБ ВЕСЦІ ЗАБАЎЛЯЛЬНЫЯ ПРАГРАМЫ Ў ТОЙ ЧАС, КАЛІ Ў ТВАІМ ДВАРЫ НЕВЯДОМЫЯ СПРАБУЮЦЬ СХАПІЦЬ ТВАЮ ДАЧКУ. КАЛІ Ў ТВАІМ ГОРАДЗЕ НА ТВАІХ ВУЛІЦАХ НЕВЯДОМЫЯ ЛЮДЗІ БЕЗ ТВАРАЎ СА ЗБРОЯЙ ХАПАЮЦЬ МІРНЫХ ГРАМАДЗЯН, СУСЕДЗЯЎ, ЗБІВАЮЦЬ І КАТУЮЦЬ, БЕСПАДСТАЎНА КІДАЮЦЬ У ТУРМЫ. КАЛІ ТЫ САМ СХАДЗІЎ У ТУРМУ І КАЛІ ТАМ ЗНАХОДЗЯЦЦА ТВАЕ КАЛЕГІ І СЯБРЫ"**

Вядоўца таксама зазначыў, што пасля таго, як ён адбыў суткі, яму на працы давялі, што пры паўторным затрыманні, з ім развітаюцца.



***Алег Роўда*** сыходзіць з пасады дырэктара Брэсцкага музычнага каледжу, якую ён займаў цягам двух гадоў.
Падчас прэзідэнцкіх выбараў ён быў старшынёй участковай выбарчай камісіі. На яго ўчастку перамагла ***Святлана Ціханоўская***.

# 3. ТВОРЧЫ СУПРАЦІЎ




Вялікі ***канцэрт “Музыка побач***” адбыўся ў пятніцу 27 лістапада ў падтрымку ўсіх, каму складана ў гэты час, а таксама творцаў, якія з вядомых прычынаў не маюць магчымасці выйсці на сцэну зараз.

У фэсце ўзялі ўдзел гурты ***РСП***, ***Крама***, ***Зміцер Вайцюшкевіч***, ***Алена ЖалудОК*** і "***Чынчынчэнел***", ***Святлана Бень***, ***Алег Хаменка***. Падтрымаць канцэрт і музыкаў можна тут, а паглядзець Online трансляцыю – па гэтай спасылцы.



Мастачка ***Аляксандра Канафальская*** стварыла вельмі эмацыйнае відэа на песню “Маці” гурта ***TOR BAND***, прысвечаную памяці ***Рамана Бандарэнка***.

***Піт Паўлаў*** даў дваравы канцэрт дзеля жыхароў Ангарскай. Паглядзець трансляцыю і падтрымаць музыкаў можна па спасылцы.

Фота: Youtube, Максім Тарналіцкі/onliner.by






СТРЫТ АРТ З **НІНАЙ БАГІНСКАЙ** ВАНДРУЕ
ПА МІНСКІХ ДВАРАХ



НОВАЯ ПРАЦА
**УЛАДЗІМІРА ЦЭСЛЕРА**




Адкрылася віртуальная выстава аб падзеях пасля 9 жніўня ***«Беларусь будучыні. Моц жаночай волі»***. Арганізатары пішуць пра сваё бачанне тых падзей:



**«ВЫСТАВА „БЕЛАРУСЬ БУДУЧЫНІ. МОЦ ЖАНОЧАЙ ВОЛІ“ – ГІСТОРЫЯ ПРА СІЛУ ЧАЛАВЕЧНАСЦІ, ЯКАЯ АБУДЖАЕЦЦА, КАЛІ ХЛУСНЯ, ГВАЛТ ДЫ НЕСПРАВЯДЛІВАСЦЬ НЕ ДАЮЦЬ ЛЮДЗЯМ СПАКОЙНА ЖЫЦЬ. ГЭТА РАСПОВЕД ПРА МАРЫ ЛЮДЗЕЙ НА ЛЕПШАЕ ЖЫЦЦЁ Ў СВАЁЙ КРАІНЕ І ПРА ЖАДАННЕ ЗМАГАЦЦА ЗА ГЭТА»**

Выстава створаная ў супрацы з незалежнай платформай ***SHKLO***, якая папулярызуе працы беларускіх фатографаў.
Пабачыць галерэю можна тут.

Відэаверсію канцэрта ***Паўла Аракеляна*** і яго гурта ***The Outsiders***, якая прысвячаецца ўсім нязломным Артыстам Перамогі: музыкам, пісьменнікам, акторам, якіх звальняюць, арыштоўваюць, збіваюць, але яны ўсё адно выходзяць на Маршы і працягваюць ствараць, граць, выступаць, – паказалі 28 лістапада.
Ахвяраваць любую суму ў Беларускі Фонд культурнай салідарнасці можна і цяпер.



# 4. ГАЛАСЫ АСОБАЎ



**СЯРГЕЙ СМАТРЫЧЭНКА,
ПЕРАКЛАДЧЫК І ФІЛОЛАГ,
АМБАСАДАР НЕЗАЛЕЖНАЙ
БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў ЧЭХІІ.**

**"МЫ ЗАЙМАЕМСЯ ВЫКЛЮЧНА КУЛЬТУРАЙ.
ПРЫ ГЭТЫМ, НАТУРАЛЬНА, ТРЭБА ЎЛІЧВАЦЬ, ШТО КУЛЬТУРА МОЖА І ПАВІННА НЕЙКІМ ЧЫНАМ РЭФЛЕКСАВАЦЬ ПАЛІТЫЧНА-ГРАМАДЗКІЯ ПАДЗЕІ.
У НАС ТРЫ АСНОЎНЫЯ СФЕРЫ ДЗЕЙНАСЦІ.
ПА-ПЕРШАЕ, ГЭТА ІНФАРМАВАННЕ.
ДРУГАЯ СФЕРА – ГЭТА НАШЫ ЎЛАСНЫЯ ПРАЕКТЫ, ЯКІЯ СПРАБУЕМ РЭАЛІЗАВАЦЬ. ГЭТА ВЫСТАВЫ, СУСТРЭЧЫ, ДЫСКУСІІ.
ТРЭЦЯЯ СФЕРА НАШАЙ ДЗЕЙНАСЦІ – БЫЦЬ ПАСЯРЭДНІКАМІ Ў АЖЫЦЦЯЎЛЕННІ РОЗНЫХ ІДЭЙ"**

Чытайце больш у матэрыяле "Радыё Свабода".



Фота: svaboda.org

**АЛЕСЬ ДЗЯНІСАЎ, МУЗЫКА, ЖУРНАЛІСТ, ЛІДАР ГАРАДЗЕНСКАГА ГУРТА DZIECIUKI, РАСПАВЁЎ ПРА СВАЁ ЗАТРЫМАННЕ І ТВОРЧАСЦЬ У ЦЯПЕРАШНІХ УМОВАХ.**

***"Дарэчы, у апошнім сваім альбоме, трэцім па ліку, мы не ўтрымаліся. У некаторых песнях наўпрост выказаліся пра сітуацыю ў краіне. Гэта ізноў жа не была палітыка. Гэта была нашая грамадзянская пазіцыя. Хаця і яе ў нас лічаць за палітыку. Я хачу, каб мяне дакладна зразумелі. Бо ў нас ідзе нейкая падмена паняццяў. Гэтыя баязліўцы, якія чхнуць у сваёй кватэры баяцца, усіх называюць палітыканамі. Насамрэч, у нашай краіне па-за палітыкай быць немагчыма. Яна сама да вас пагрукаецца".***

***Ігар Бараноўскі***, берасцейскі краязнаўца, які спазнаў досвед 30-суткавага арышту за ўдзел у масавых мерапрыемствах, распавядае пра досвед, атрыманы за кратамі, пратэсты і рэакцыі ўлады на іх.

***"Пра тое, што я вынес з гэтага: канешне ж, я даведаўся, што людзі, якія са мной сядзелі, – гэта будучыня Беларусі. Гэта важны досвед. І я зразумеў, што ўсё, на чым трымаецца гэта сістэма – гэта сіла, гвалт і часам няпраўда, якую яны самі паміж супрацоўнікаў пашыраюць і спрабуюць на наіўных людзей яе закінуць. Але мае погляды, яны толькі ўмацаваліся".***





**АНДРУСЬ ТАКІНДАНГ, ЯКОГА ЗАТРЫМАЛІ 7 ЛІСТАПАДА ПАСЛЯ КАНЦЭРТА ГУРТА RECHA Ў МІНСКУ, АДСЕДЗЕЎ 15 СУТАК І РАСПАВЁЎ, ЯК ГЭТА БЫЛО.**

*"Мы ўсе даўно ў гурце разумелі, што гэта здарыцца. І калі быў прысуд, то ўсе выдыхнулі. Разумелі ж, чым дваровыя канцэрты для нас скончацца. Стала лягчэй. У нас жа было такое пачуццё — не тое каб віны, але нашыя шматлікія калегі ўжо перасядзелі ўсе. І мы ўсё чакалі, калі ж мы таксама. Агулам гэта вельмі мізэрная плата за тую радасць, якую атрымліваеш на дваровых канцэртах. Галоўнае, што наш апошні канцэрт быў шматлюдным, і нас схапілі ўжо пасля таго, як мы яго адыгралі"*



**ПАВЕЛ АРАКЕЛЯН, ДЖАЗМЭН, РЭКАРДСМЕН ПА КОЛЬКАСЦІ ПРАВЕДЗЕНЫХ ВУЛІЧНЫХ КАНЦЭРТАЎ, ЯКОГА ЗАТРЫМАЛІ ПАСЛЯ ДВАРАВОГА КАНЦЭРТА 7 ЛІСТАПАДА І АСУДЗІЛІ НА 15 СУТАК АРЫШТУ, ПАДЗЯЛІЎСЯ СВАІМІ ЎРАЖАННЯМІ АД ЗНЯВОЛЕННЯ.**

*“Я выйшаў больш бадзёры, чым заязджаў.*
*Убачыў настрой людзей, якія там сядзяць у палоне. Яны абмяркоўваюць, што рабіць далей, як рэфармаваць ахову здароўя, як міліцыю, Міністэрства адукацыі. Гэта ўсё рэальныя прапановы і рэформы цягам 2-3 гадоў з поўнай зменай сістэмы.*
*Для ўсяго ёсць гатовыя мадэлі, якія трэба адаптаваць да нашых рэалій”.*





# 5. МІЖНАРОДНАЯ САЛІДАРНАСЦЬ



Фота: naviny.by




Новая п’еса ***Андрэя Курэйчыка*** "Пакрыўджаныя. Беларусь (сія)", якая апісвае драматычныя падзеі ў Мінску пасля выбараў 9 жніўня, выдадзеная на шведскай мове!
Раней яна была прадстаўленая ў рамках міжнароднага праекта тэатральнай салідарнасці Шведскім Каралеўскім тэатрам у Стакгольме, а чыткі прайшлі ў тузіне гарадоў па ўсім свеце.
Сродкі ад продажаў друкаванага варыянту п’есы на шведскай мове будуць накіраваныя на падтрымку беларускай культурнай супольнасці ў рамках кампаніі Save Our Songs, якая праводзіцца пры інфармацыйнай падтрымцы Беларускага ПЭН-цэнтра. Набыць папяровую копію можна, перайшоўшы па спасылцы.
***“Кожная саломінка можа стаць выратавальнай”***, - вераць арганізатары ініцыятывы, а мы неверагодна ўдзячныя за тое, што сваёй падтрымкай яны натхняюць нас не здавацца!

Больш за ***50 польскіх пісьменнікаў*** падпісалі ліст салідарнасці з беларускімі калегамі. Сярод падпісантаў - Нобелеўская лаўрэтка ***Вольга Такарчук***.
***“У гадзіну выпрабавання будзьце ўпэўненыя ў нашай салідарнасці. Правы чалавека аднолькавыя для ўсіх – і, баронячы іх, мы заўжды будзем змагацца за вашу і нашу свабоду”***.

Адкрыты ліст украінскіх пісьменнікаў у падтрымку беларускіх калег.
***“Як мала хто, мы разумеем, якой ёсць цана свабоды. І разам з вамі звяртаемся да сусветнай грамадскасці: падтрымайце свабодных беларусаў! Дапамажыце спыніць гвалт у еўрапейскай краіне! Не паўтарайце памылак appeasement-у, не маўчыце!”***

#freewordsbelarus

#Свабодныясловыбеларусь

**#freewordsbelarus**: **36** прэзідэнтаў, старшыняў і сяброў рады **33** пісьменніцкіх і перакладчыцкіх арганізацый з **22** краін, якія прадстаўляюць **120 000** аўтараў, аб'ядноўваюць свае галасы ў падтрымку дэмакратычнага руху ў Беларусі.



Падрабязней – на сайце Беларускага саюза пісьменнікаў.

**"ЕЎРОПА СОЧЫЦЬ І НЕ БУДЗЕ АДВОДЗІЦЬ ПОЗІРКУ: МЫ БАЧЫМ ГВАЛТ І ПРЫГНЁТ РЭЖЫМАМ, МЫ БАЧЫМ НАПАДЫ НА СВАБОДУ СЛОВА, АЛЕ МЫ ТАКСАМА ЧУЕМ АДВАЖНЫЯ ГАЛАСЫ БЕЛАРУСІ, ЯКІЯ АДМАЎЛЯЮЦЦА МАЎЧАЦЬ. МЫ СТАІМ ПОБАЧ З ВАМІ І ЎЗДЫМАЕМ ГОЛАС ЗА БЕЛАРУСКІ ДЭМАКРАТЫЧНЫ РУХ".**



Дакументальную драму ***“Дыхаем разам. Дышим вместе”*** ставяць у Рускім драматычным тэатры Літвы. У спектаклі занятыя, у тым ліку, беларускія акторы і рэжысёры, якія прымалі ўдзел у падзеях апошніх месяцаў у Беларусі.
Прэм’ера запланаваная на снежань.



Расійскі гурт ***Каста*** стварыў кліп на сваю песню “Выходи гулять”, у якой адлюстраваныя здзекі і катаванні беларускімі сілавікамі мірных грамадзян.

# 6. АЎКЦЫЁН



**КАЦЯРЫНА ІВАНЧЫКАВА, САЛІСТКА ГУРТА IOWA, ВЫСТАВІЛА НА АЎКЦЫЁН СВАЮ ЎНІКАЛЬНУЮ КАРЦІНУ, КАБ ПАДТРЫМАЦЬ РЭПРЭСАВАНЫХ У БЕЛАРУСІ КАЛЕГ.**

ЗРАБІЦЬ СТАЎКУ НА АЎКЦЫЁНЕ І ПАДТРЫМАЦЬ БЕЛАРУСКІХ КУЛЬТУРНЫХ ДЗЕЯЧАЎ.

**"Я НАМАЛЯВАЛА ГЭТУЮ ПТУШКУ..., НАВАТ, НАПЭЎНА, ГЭТА Я. ДЛЯ МЯНЕ ГЭТА НЕШТА ЦУДОЎНАЕ. ПТУШКА СПЯВАЕ. У ЯЕ ЁСЦЬ ГОЛАС, УПЭЎНЕНАСЦЬ. І ПА ЯЕ НАСТРОЮ, ЯЕ ПОЗЕ Я АДЧУВАЮ, ШТО ГЭТА ПТУШКА ШУКАЕ БАЛАНС. І ЯНА НА ВЕРНЫМ ШЛЯХУ", – КАЖА КАЦЯ.**

# 7. РОЗНАЕ

***Віктар Бабарыка***, які ад 18 чэрвеня знаходзіцца ў СІЗА КДБ, сутыкнуўся з парушэннем свайго права набываць кнігі. Зняволены можа браць кнігі ў турэмнай бібліятэцы або купляць паводле спісу ў кнігарні, аднак кнігі, на якія Віктар афармляе заявы, не купляюць і не выдаюць яму. Апрач гэтага, палітвязень не атрымаў лістоў і паштовак, якія яму дасылалі на дзень народзінаў 9 лістапада.






У ***Марыі Калеснікавай***, якая знаходзіцца ў Жодзінскім СІЗА, з камеры забралі кнігі: ***Стывена Хокінга*** “Сусвет Стывена Хокінга”, ***Юваля Ноя Хары*** — “21 урок для 21 стагоддзя” і Homo Deus. Кароткія гісторыі будучыні”.

***Марыну Глазаву***, падазраваную па “Справе карагодаў”, перавялі пад хатні арышт 24 лістапада.
13 верасня ў Брэсце, калі пратэстоўцы на Маршы герояў спявалі і танчылі ў карагодах, быў выкарыстаны вадамёт. Супраць пратэстоўцаў была ўзбуджаная крымінальная справа па ч. 1 арт. 342 КК "Арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, альбо актыўны ўдзел у іх". Гэтая справа атрымала назву "Справа карагодаў". На дадзены момант падазраванымі па гэтай справе з'яўляюцца дзясяткі чалавек, але Марына была адзінай, каго змясцілі пад варту.



Гэты матэрыял падрыхтаваны ў супрацы *Беларускім ПЭН-цэнтрам* і *Беларускім фондам культурнай салідарнасці*.







Інфармацыйны партнёр - партал TuzinFM.by




**КАНТАКТЫ**

E-mail: BFKS2020@protonmail.com
Telegram: @by_culture
Instagram: @by_culture
Facebook: https://www.facebook.com/bcsfbel
YouTube: http://bit.ly/youtube-byculture
Twitter: @BYCULTUREFUND

